Прачытай сам і перадай другому.

# Народная Воля

№ 78 (4536)

2 кастрычніка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

БЕЗ РЭТУШЫ



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Што стаіць за выкрыццём Нарышкіным антыбеларускай змовы?

Кіраўнік Службы знешняй разведкі Расіі Сяргей Нарышкін выкрыў змову спецслужбаў ЗША супраць Беларусі. Паводле яго, *«Злучаныя Штаты Амерыкі накіравалі каля 20 мільёнаў долараў на арганізацыю антыўрадавых акцый у Беларусі».*

Нейк танна ацэньваецца Беларусь. Па БТ даўно ўжо кажуць пра мільярды долараў, кінутыя на беларускую «каляровую рэвалюцыю». А тут усяго толькі 20 мільёнаў.

Паводле Нарышкіна, радыкальныя нацыяналісты з Беларусі праходзяць падрыхтоўку ў Польшчы, Грузіі, ва Украіне і ў краінах Балтыі пры ўдзеле інструктараў з ЦРУ і Пентагона.

Што азначаюць такія заявы? Вельмі падобна, што гэта ідэалагічная, інфармацыйная падрыхтоўка да нейкіх жорсткіх захадаў супраць пратэстуючага народа. Ці не рыхтуюць у Маскве для Беларусі кітайскую плошчу Цяньаньмэнь узору 1989 года?

Таксама, паводле Нарышкіна, у змове супраць Беларусі ўдзельнічае каталіцкая царква. Гэта цікавы паварот. Дасюль палітычныя рэпрэсіі насілі кропкавы характар, тычыліся асобных людзей ці эканамічных суб'ектаў. А цяпер рыхтуюцца адкрыць агонь па плошчах, калі знішчаюцца цэлыя пласты, слаі, эканамічныя галіны, цэлыя гарызантальныя сеткі? Гэта партыі (Лукашэнка загадаў перарэгістраваць партыі), ІТ-сектар. Вось каталіцкая царква.

Вельмі злавесна выглядае намаляваны Нарышкіным наступны сюжэт: *«Сярод па-экстрэмісцку настроеных працiўнiкаў улад Беларусi, якiя хаваюцца за мяжой, выношваецца план рэзанансный правакацыі: арышт, раненне або нават забойства аднаго з аўтарытэтных святароў».* Калі гаворка ідзе пра арышт, то навошта беларускім уладам удзельнічаць у правакацыі, арганізаванай з-за мяжы? А пра забойства… Ведаеце, пасля гісторыі з Навальным усяго можна чакаць.

ПАЧУЙЦЕ НАС...

## Сядзець забараняецца?

*30 верасня беларускія студэнты зладзілі сядзячую забастоўку.*

Паводле інфармацыі тэлеграм-канала *studenty2020*, у Мінску ў акцыі бралі ўдзел навучэнцы дзясятка ўніверсітэтаў – БДУ, БНТУ, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта, Беларускага дзяржаўнага эканамічнага і Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэтаў, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Універсітэта фізічнай культуры і Аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта…

Маладыя людзі проста сядзелі на прыступках у сваіх навучальных установах альбо на вуліцы, але гэта не ўсім спадабалася. У некаторых ВНУ адміністрацыя пагражала студэнтам рэпрэсіямі і затрыманнямі, хаця трэба сказаць, што акцыі былі нешматлюдныя.

Як жартуюць дасціпнікі ў сацыяльных сетках: "*У Беларусі дазваляецца альбо стаяць на каленях, альбо сядзець толькі па рашэнні суда*".

**Віктар ШПАК.**





ЦИФРЫ

## Бюджет за январь–август исполнен с дефицитом

*Минфин опубликовал информацию об исполнении бюджета.*

По сообщению Минфина, доходы бюджета сектора государственного управления за январь–август 2020 года сложились в сумме 33,4 млрд рублей, или 62,9 процента уточненного годового плана.

Доходы республиканского бюджета составили 14,5 млрд рублей, или 57,2 процента уточненного годового плана.

Поступление НДС составило 8,4 млрд рублей, или 68,2%. Налога на прибыль поступило 1,5 млрд рублей, или 36,5%. Акцизы поступили в сумме 2 млрд рублей, или 63,1%. Доходы от внешнеэкономической деятельности составили 2,3 млрд, или 47,8%.

Поступления в Фонд социальной защиты населения составили 11,4 млрд рублей, или 66,1%.

По состоянию на 1 сентября 2020 года задолженность по налогам и сборам составила 147,9 млн рублей.

Расходы бюджета сектора государственного управления за январь–август 2020 года составили 34,9 млрд рублей, или 62,2%.

Расходы республиканского бюджета составили 16,0 млрд рублей, или 58,2%.

На общегосударственную деятельность направлено 7,7 млрд (58,7%), на финансирование национальной экономики – 3,5 млрд рублей (60,8%), на финансирование социальной сферы (социальная политика, образование, здравоохранение, физическая культура, спорт, культура и средства массовой информации) – 11,4 млрд (62,4%).

Расходы Фонда социальной защиты населения составили 11,2 млрд рублей, или 65,3%.

Дефицит (превышение расходов над доходами) бюджета сектора государственного управления за январь–август 2020 года сложился в сумме -1,5 млрд рублей.

Дефицит республиканского бюджета сложился в размере -1,5 млрд рублей.

Профицит бюджета Фонда социальной защиты населения составил 0,2 млрд рублей.

ВІНШУЕМ!

## Яшчэ адна ўзнагарода Алеся Бяляцкага

*Вядомы беларускі праваабаронца стаў лаўрэатам прэстыжнай міжнароднай прэміі "За годны лад жыцця".*

Шведскі фонд *Right Livelihood Award Foundation* назваў лаўрэатаў штогадовай прэміі, і сярод чатырох асоб – кіраўнік пазбаўленага рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алесь Бяляцкі**.

Алесь Бяляцкі і сябры «Вясны» неаднаразова падвяргаліся пераследу з боку ўлад за ахвярную праваабарончую дзейнасць. У 2011 годзе Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 года пазбаўлення волі. Пад ціскам беларускага грамадства і міжнароднай супольнасці ўлады былі вымушаны вызваліць Алеся датэрмінова летам 2014 года.

«*Прэмія, якой мяне ўганаравалі ў гэты драматычны для гісторыі Беларусі момант, з'яўляецца важнай падтрымкай для ўсяго беларускага грамадства, якое сёння хоча дэмакратычных змен, якое дабіваецца, каб правы чалавека ў Беларусі шанаваліся і выконваліся*», – адзначыў, каментуючы ўручэнне міжнароднай прэміі, беларускі праваабаронца.



ПОЗИЦИЯ

## «Верю в лучшее будущее для белорусского народа»

*Посол в Аргентине подал в отставку*

Посол Беларуси в Аргентине и по совместительству в Республике Чили, Парагвае, Перу **Владимир Астапенко** подал в отставку в день инаугурации Александра Лукашенко. Об этом посол рассказал *TUT.BY*.

– Действительно, 23 сентября я подал заявление об освобождении от занимаемой должности по соглашению сторон в соответствии с п.1 части второй статьи 35 Трудового кодекса Республики Беларусь. Сейчас жду принятия соответствующего указа, до этого момента формально остаюсь на службе. Верю в лучшее будущее для белорусского народа! – сказал Владимир Астапенко.

На вопрос, что стало причиной написания заявления, посол Астапенко попросил обратить внимание на дату его подачи. 23 сентября, напомним, прошла «тайная» инаугурация Александра Лукашенко, дату которой заранее официально никто не озвучивал.

Владимир Астапенко – карьерный дипломат, начинал свою работу третьим секретарем МИД Белорусской ССР. Занимал пост замминистра иностранных дел, работал в ряде посольств. В 2018 году был назначен послом Беларуси в Аргентинской Республике, а позже – послом в Чили, Парагвае и Перу по совместительству.

В отставку на днях также подал старший советник посольства Беларуси в Латвии **Андрей Авраменко**. Об уходе из МИД он сообщил на своей странице себя в соцсетях.

Напомним: после президентских выборов ряд дипломатов покинули МИД из-за своей гражданской позиции, озвученной публично. Постов и/или дипломатического ранга лишились послы Беларуси в Испании, Латвии и Словакии. Сотрудника центрального аппарата, начальника историко-архивного отделения МИД Вячеслава **Казаченка**, вышедшего на пикет против насилия в стране, уволили из внешнеполитического ведомства по статье, глава департамента Северной Америки и Западной Европы **Андрей Бушило** и первый секретарь управления Европы МИД **Павел Слюнькин** сами ушли в отставку.

*Елена Толкачева/TUT.BY.*

ВНИМАНИЕ!

## Коронавирус в наступлении!

*В Беларуси на 1 октября зарегистрированы 79.019 человек с положительным тестом на COVID-19. Прирост за сутки – 388 новых случаев.*



За весь период распространения инфекции на территории страны умерли 839 пациентов (плюс шесть за последние сутки).

Кстати, 1 октября в Беларуси началась вакцинация от коронавирусной инфекции российской вакциной. Первые два пациента, которые решили стать добровольцами, привились в 28-й поликлинике Минска.

Исполняющий обязанности министра здравоохранения **Дмитрий Пиневич** отметил, что уже более 4 тысяч белорусов выразили желание принять участие в вакцинации. Но только 100 человек получат возможность привиться от коронавируса препаратом, разработанным в Национальном исследовательском центре эпидемиологии и микробиологии имени Н.Ф.Гамалеи Минздрава России.

**Сергей ЗАБЛОЦКИЙ.**

ПРАТЭСТ

## ЗАЯВА
## Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

28 верасня стала вядома, што сябра Прэзідыума Каардынацыйнай рады, лаўрэат Нобелеўскай прэміі пісьменніца Святлана Алексіевіч з'ехала з Беларусі на запланаванае раней лячэнне і працу над новай кнігай у Нямеччыну. Беларускія дзяржаўныя СМІ і найперш тэлебачанне скарысталі гэты момант, каб у чарговы раз ачарніць добрае імя сусветна вядомай пісьменніцы і паіранізаваць з яе вымушанага ад'езду. У прыватнасці, было выказанае меркаванне, цытуем, што "ў альтэрнатыўшчыкаў цяпер можа з'явіцца яшчэ адзін саюз пісьменнікаў за мяжою".

Лічым неабходным паведаміць тым, хто забыўся ці робіць выгляд, што не ведае: такой патрэбы няма. Святлана Алексіевіч з'яўляецца дзейным сябрам Рады нашага Саюза беларускіх пісьменнікаў, які вось ужо на працягу 26 гадоў, з першых дзён прыходу Аляксандра Лукашэнкі да ўлады, паслядоўна адстойвае правы беларускага народа на сваю дзяржаву, мову, культуру і літаратуру, за што пацярпеў жорсткі пераслед. Наш Саюз гвалтоўна пазбавілі ўласнага памяшкання – Дома літаратара ў цэнтры Мінска – і асноўных літаратурных выданняў. З гэтай прычыны на працягу многіх гадоў Саюз беларускіх пісьменнікаў працуе ў роднай краіне практычна ва ўмовах "унутранай эміграцыі".

Нагадаем, што наш Саюз быў заснаваны ў 1934 годзе класікамі беларускай літаратуры Янкам Купалам, Якубам Коласам ды інш. Нягледзячы на стварэнне ў 2006 г. лаяльнага да ўладаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, у наш Саюз прынцыпова ўваходзілі ўсе Народныя пісьменнікі Беларусі, а таксама самыя вядомыя і папулярныя беларускія літаратары, у тым ліку і, падкрэслім яшчэ раз, Святлана Алексіевіч.

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў пасля чарговых выбараў Прэзідэнта адной з першых, ужо ранкам 10 жніўня, заявіла, што яна выступае за спыненне гвалту, вызваленне ўсіх палітзняволеных, адстаўку А. Лукашэнкі і правядзенне справядлівых і празрыстых выбараў Прэзідэнта з новым складам Цэнтральнай выбарчай камісіі і ўдзелам міжнародных назіральнікаў. Падзеі, што адбыліся пасля, масавыя мітынгі і дэманстрацыі пратэсту, якія праходзілі і праходзяць па ўсёй Беларусі вось ужо больш як 50 дзён і на якія толькі ў Мінску збіраецца ад 100 да 300 тысячаў жыхароў, а таксама жорсткія расправы ўладаў над дэманстрантамі, арышты і суды над імі, перакрыццё інтэрнэту ды інфармацыйных сайтаў, нематываваныя арышты больш за 15 тысячаў грамадзянаў Беларусі, толькі пацвердзілі справядлівасць гэтых патрабаванняў.

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў выказвае сваю падтрымку Каардынацыйнай радзе і асабіста Святлане Алексіевіч і прызнае Каардынацыйную раду паўнамоцным прадстаўніком беларускага народа, які можа весці перамовы аб будучыні нашай краіны.

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў звяртаецца да кіраўнікоў дзяржаў-суседак Беларусі – Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны – не быць староннімі назіральнікамі за тым, што адбываецца ў нашай краіне, а зрабіць захады дзеля прымусу беларускіх уладаў да дыялогу з беларускім народам і ягоным прадстаўніком – Прэзідыумам Каардынацыйнай рады. Толькі дэмакратычная суверэнная Рэспубліка Беларусь можа быць паўнавартасным чальцом міжнароднай супольнасці.

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў яшчэ раз пацвярджае свае ранейшыя патрабаванні правядзення новых выбараў Прэзідэнта краіны, вызвалення ўсіх палітзняволеных і спынення гвалту сілавых структураў над сваім народам.

*1 кастрычніка 2020 года.*

СИТУАЦИЯ

# Госдолг Беларуси увеличился на 13 миллиардов рублей

*Государственный долг Беларуси увеличился по сравнению с началом 2020 года на 13 млрд рублей, или на 29,1%, и на 1 сентября составил 57,8 млрд рублей, сообщает Министерство финансов.*

Внешний госдолг составил 17,7 млрд долларов, увеличившись с начала года на 0,6 млрд долларов, или на 3,6%.

В январе–августе 2020 года привлечены внешние государственные займы на сумму, эквивалентную 1 млрд 921,2 млн долларов: 1391,5 млн долларов – облигации, размещаемые на внешних финансовых рынках; 429,2 млн долларов – правительства и банков РФ; 56,2 млн долларов – Экспортно-импортного банка КНР; 38,1 млн долларов – МБРР; 6,2 млн долларов – ЕБРР и Северного инвестиционного банка.

На погашение внешнего госдолга в январе–августе направлено 1 млрд 165,6 млн долларов: 533,3 млн долларов – правительство и банки РФ; 387,1 млн долларов – банки КНР; 176,6 млн долларов – ЕФСР; 66,6 млн долларов – МБРР; 1,3 млн долларов – ЕБРР и СИБ; 0,7 млн долларов – Товарно-кредитная корпорация США.

По данным Минфина, внутренний государственный долг по состоянию на 1 сентября составил 10,6 млрд рублей, увеличившись с начала года на 1,8 млрд рублей, или на 20,6%.

В январе–августе 2020 года размещено внутренних валютных и рублевых государственных облигаций для юридических и физических лиц на сумму, эквивалентную 294,1 млн долларов и 200 млн рублей. Погашено валютных и рублевых государственных облигаций для юридических и физических лиц на сумму, эквивалентную 466,4 млн долларов и 161,2 млн рублей.

Напомним, российский президент Владимир Путин после встречи с Александром Лукашенко 14 сентября в Сочи сообщил, что *«Россия предоставит Беларуси в этот сложный момент кредит государственный – 1,5 млрд долларов».*

*«Обещанный кредит будет выделяться частями»*, – сказал министр финансов России Антон Силуанов.

Согласно параметрам бюджета, в 2020 году Беларусь должна направить на обслуживание государственного долга 2,9 млрд рублей, на погашение основного долга – 6 млрд. Более 85% расходов связаны с выплатами в пользу РФ, КНР и ЕФСР.

В связи с пандемией белорусские власти решили увеличить лимит внутреннего госдолга на 1,25 млрд рублей в 2020 году. Кроме того, правительство инициировало переговорный процесс с внешними кредиторами о привлечении 3 млрд долларов.

В июне власти Беларуси разместили два выпуска евробондов на 1,25 млрд долларов. Средства будут направлены на рефинансирование платежей по госдолгу в текущем году.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



# У знак салідарнасці…

*На гэтым тыдні Беларускі гандбольны клуб «Віцязь-Леон» адмовіўся праводзіць матч чэмпіянату Беларусі з-за арышту баскетбалісткі Алены Леўчанка.*

Клуб заранеі паведаміў Федэрацыі гандбола Беларусі, што не выйдзе на пляцоўку ў гульні супраць «Машэкі».

Як растлумачылі ў камандзе, арышт Леўчанка яны лічаць незаконным і пратэстуюць супраць ціску на грамадзян Беларусі.

Нагадаем, што 30 верасня Алена Леўчанка была арыштавана на 15 сутак за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

Спартсменка выступала за зборную з 2001 года, двойчы гуляла ў складзе нацыянальнай каманды на Алімпійскіх гульнях. У свой час згулялa ў фінале жаночай НБА, а таксама прызнавалася лепшай цэнтравой чэмпіянату свету.

*(Працяг тэмы чытайце на 8-й старонцы.)*

ПЕРАСЛЕД

# Замацавалі на тэлевежы пратэстную сімволіку – 10 сутак арышту

Два работнікі "Гродна-Азота" каля 11 гадзін вечара прабраліся на тэрыторыю гродзенскай тэлевежы, якая ахоўваецца, забраліся наверх і прымацавалі там бел-чырвона белы сцяг, але іх адразу і затрымалі.

Суд Ленінскага раёна Гродна пакараў абодвух 10 суткамі арышту.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

К СВЕДЕНИЮ!

# Цена на гречку не будет «кусаться»

Снова продлено регулирование цен на гречку до 31 декабря 2020 года. Это решение согласовала Евразийская экономическая комиссия, чтобы поспособствовать *«обеспечению доступности социально значимого продукта для населения»*. Ценовое регулирование на «проблемную» гречку продлевается уже третий раз за год.

Государственное регулирование цен на гречку было установлено в ноябре 2019 года. Это решение действовало до 28 января 2020-го. После этого регулирование цен продлевалось еще дважды: сначала – до 28 апреля, потом – до 30 сентября. Нынешнее ограничение будет действовать до конца 2020 года.

Введение ценового регулирования в прошлом году было связано с сокращением валового сбора гречихи в России и, как следствие, ростом цен на гречневую крупу, говорится на сайте Евразийской экономической комиссии. В результате было решено ограничить уровень предельной максимальной торговой надбавки до 25% от стоимости товара.

В 2019 году гречка оказалась в лидерах по росту цен. За восемь месяцев 2020 года гречневая крупа, по данным Белстата, подорожала на 24,9% (август 2020-го к декабрю 2019-го).

ОБРАЩЕНИЕ

## Валерий ЦЕПКАЛО,

экс-претендент на должность президента Беларуси, экс-глава Парка высоких технологий

# Призываю встать на сторону народа!



Вполне понятно, почему «правоохранительные органы» стоят на стороне власти, и вполне понятно, чем это закончится.

Опыт стран Латинской Америки показывает, что правоохранительные органы не понесут наказания только в двух случаях: если власть будет передана от отца к сыну, либо если власть приобретается путем военного переворота.

В нынешних условиях эти сценарии маловероятны для Беларуси.

Мы понимаем, что живем в век современных технологий, в век, когда ни одно преступление не будет забыто, не будет скрыто. Все преступления фиксируются.

Исторический опыт говорит о том, что все те, кто уже совершил преступления, все те, кто уже издевался над белорусами, осуществлял насилие, прежде всего над личностью человека, все они безусловно понесут уголовную и другую предусмотренную законодательством ответственность.

Но есть еще те, кто не запятнал себя фактами пыток, насилием, применением грубой силы и издевательствами в отношении мирных граждан. Есть еще те, кто помнит слова, которые он приносил в качестве присяги. Есть еще те, для кого слова «честь», «достоинство», «мужество», «отечество», «народ» не просто пустые звуки.

Я призываю их сегодня сделать правильный выбор и встать на сторону народа. Это неизбежный шаг, который предопределен исторически просто потому, что Лукашенко сегодня уже политический труп.

При непризнании со стороны Европейского Союза Беларусь как самостоятельное государство существовать не может.

Я думаю, что уже очень скоро начнет меняться отношение к событиям в Беларуси со стороны российского руководства.

Для российского народа совершенно небезразлично, как его будут воспринимать белорусы. Как и для белорусского народа совершенно небезразлично, как воспринимают в России наши действия и все то, что мы делаем.

ТРЫВОЖНАЯ СІТУАЦЫЯ

# Прадпрыемства працуе, але людзі абураны тым, што адбываецца ў краіне

*Карэспандэнт "Народнай Волі" спрабаваў даведацца аб сітуацыі, якая складваецца на адным з буйнейшых хімічных прадпрыемстваў краіны – ААТ "Гродна Азот".*

Яшчэ на мінулым тыдні розныя тэлеграм-каналы паведамілі аб тым, што на ААТ "Гродна-Азот" некаторыя работнікі (лічбы называюцца самыя розныя, аж да 100 чалавек) нібыта заявілі аб сваіх планах на звальненне.

Прычынай такіх настрояў называлі салідарнасць з асуджаным на 5 сутак калегам, якога затрымалі падчас пратэстных акцый.

"Народная Воля" паразмаўляла з кіраўніком Незалежнага прафсаюза "Гродна Азот" **Андрэем Ханевічам**. Ён распавёў, што насамрэч работнікі адной са змен цэха "Аміяк-3" (гэта каля 15–20 чалавек) напісалі заявы аб звальненні, але пакуль не перадалі іх кіраўніцтву. Яны не хацелі прымаць змену, адмаўляліся ад выканання работы.

Да іх прыязджалі прадстаўнікі адміністрацыі і вялі перамовы. Пакуль дамовіліся працаваць.

*"Я і сам іх прасіў не падаваць заявы на звальненне, бо адміністрацыя можа самых актыўных звольніць, а астатнім сказаць, што ў іх кантракты і, маўляў, ідзіце працаваць"*, – распавядае Ханевіч.

Праўда, больш за дзесяць чалавек з гэтага цэха, паводле яго слоў, потым напісалі заявы на ўступленне ў Незалежны прафсаюз.

Накont таго, што тых, хто напісаў заяву на звальненне, каля сотні, Ханевіч нічога пэўнага сказаць не можа, паколькі такой колькасці заяў не бачыў.

Ён, аднак, звяртае ўвагу: абстаноўка на прадпрыемстве напружаная, людзі вельмі абураны тым, што адбываецца ў краіне.

*"Людзям трэба выплюхнуць увесь негатыў, які сабраўся, а няма куды*, – разважае прафсаюзны лідар. – *А нестабільнасць у краіне зацягваецца, і гэта ўсіх трывожыць".*

Тым часам адміністрацыя прадпрыемства заявіла, што на заводзе дынаміка змянення колькасці прынятых і звольненых прыкладна такая ж, як і летась. Там таксама паведамілі, што масавых заяў на звальненне ад сваіх работнікаў не атрымлівалі. Не пацвердзілі ў адміністрацыі і факты таго, што нехта з работнікаў прадпрыемства выстаўляў нейкія патрабаванні пад пагрозай звальнення.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

БЕЗ РЕТУШИ

# «Я не понимала, как переживу ночь в таких условиях…»

*Почему юрист из Борисова считает, что наше законодательство нужно полностью пересматривать.*

***ИЗ ВИДЕОРОЛИКА***

Здравствуйте! Меня зовут Людмила Хотько. Мне 25 лет. Я работаю юристом.

15 сентября около семи часов вечера позвонили в домофон. Открыла дверь. Мне сказали, что я прохожу как свидетель по какому-то делу и меня хотят сопроводить на Строителей, 14 *(в отдел милиции. – Ред.)*.

За мной приехали три милиционера, как за особо опасной. Ну, собственно, я сама села в машину, не сопротивлялась. Мы приехали на Строителей, 14. Мне очень долго не говорили, что вообще происходит, зачем я там сижу. Просидела около часа, только после этого мне распечатали протокол, где было написано, что я задержана за участие в массовом мероприятии 12 сентября. Сказали: вы же понимаете, за что вас задерживают? Нет, говорю, не понимаю, объясните. Мне так никто ничего и не объяснил. Сказали: проходите на обыск, снимайте шнурки, сегодня вы ночуете здесь. Выхода у меня не было. Я просила адвоката, но услышала: вы же понимаете, что это бессмысленно просить адвоката, никто вам его не предоставит. Так что просто подпишите протокол и идите ночевать в камеру.

Протокол я не подписывала, написала, что не согласна с предъявленными обвинениями. Ну, опять же, это не спасло. Ночь провела в ИВС. Благо, что у меня была хорошая сокамерница, нам было весело, хотя поначалу было очень тяжело, потому что трудно понять: за что, почему, только что сидела дома, а уже в камере нахожусь.

Утром был суд. Два свидетеля сказали, что видели меня там *(на акции. – Ред.)*, что я активно участвовала. Правда, один сказал, что я была с шариками, а второй сказал, что я была без шариков. Я пыталась судье указать на это: посмотрите, они путаются в показаниях, но судья это проигнорировал, к сожалению.

**– Сколько нарушений вы насчитали?**

– Два как минимум. Это то, что меня забрали из дома, при этом не сказав, с какими целями меня забирают. Второе было то, что мне не разрешили связаться с моими родственниками и сказать, где я. До последнего не разрешали; уже когда меня вели в сам ИВС, я просто настаивала на том, чтобы мне дали позвонить хотя бы мужу и сказать ему, что я остаюсь здесь на ночь и чтобы он позвонил на мою работу, сообщил, где я. Один из сотрудников милиции пошел навстречу и дал свой личный мобильный телефон, чтобы я набрала мужа. Хотя они обязаны были либо дать мне позвонить, либо сами сообщить моим родственникам. Ну и третье – это, конечно, то, что на суде к материалам моего дела не было приложено ничего: ни видеозаписи со стороны свидетелей, хотя они говорили, что она есть, где видно, что я призываю к чему-то людей, стою с шариками, кричу, ни с моей стороны не были учтены показания о том, что я была в тот момент с мужем – я встречала его с работы, и мы пили кофе. То есть в протоколе и сами свидетели все равно настаивали на том, что я была одна почему-то. Хорошо, конечно, что моего мужа не привлекли, но важна сама суть: очевидно, что я была в тот день с мужем, а они это не хотели даже рассматривать, как и не хотели привлекать никаких свидетелей. То есть мои права как задержанного совершенно не соблюдались.

**– Ваша реакция на задержание?**

– Первое что было – это шок. В принципе, я понимала, почему за мной приехали. Потому что у меня уже была профилактическая беседа с сотрудниками милиции, поэтому я понимала, что, скорее всего, меня уже забирают в ИВС. Ну, конечно, я до последнего верила, что это не так. Я же все-таки юрист, у меня есть какое-то понимание законности, и я до последнего верила, что все будет по закону. Ну, конечно, к сожалению все произошло не так. И когда я уже попала туда и поняла, что меня там ставят, какое-то разочарование, наверное, отчаяние испытала, потому что я никогда не подумала, что я попаду в такую ситуацию. Просто я не могла в это поверить. Конечно, когда меня уже в саму камеру посадили, я там была сначала одна, то я, конечно, расплакалась, я не знала, что мне делать. Я понимала, что на работе будут проблемы, что об этом, естественно, сообщат и все узнают, ну и в целом я не понимала, как переживу ночь в таких условиях: там отвратительно пахло, было очень холодно, я не понимала, как я вообще до утра доживу в таких обстоятельствах, но хорошо, что Марина была со мной и мы хоть както друг друга поддерживали. Нормально дожили до утра. Все было нормально.



**– Как отреагировали на работе?**

– Меня предупредили о том, что об этом знают и что какие-то меры ко мне, скорее всего, будут применены, пока нет ничего конкретного. Но я думаю, что, скорее всего, мне будет продлен контракт, который у меня заканчивается относительно скоро.

**– Ваше мнение о митингах?**

– На каждом несанкционированном митинге, на котором я была, рассказывала сотрудникам милиции, которые подходили, что у нас есть замечательная Конституция, где в статье 35, насколько я помню, написано, что мы имеем право на мирное шествие. Собственно, это и есть мирное шествие. Мы ничего не крушим, не громим, никого не убиваем, мы просто требуем, чтобы нас услышали, поэтому они, конечно, полностью законны. Есть Декларация о правах человека, где также закреплено, что, в принципе, люди имеют право на мирное шествие и на выражение своих политических и какихлибо других точек зрения. То, что сейчас происходит, – это нарушение прав человека.

**– Согласны ли с размером штрафа?**

– Штраф 15 базовых величин, скорее всего, буду обжаловать. Мне немножко жалко две базовые платить за эту процедуру, но, наверное, я все-таки выделю из бюджета и обжалую хотя бы для того, чтобы там немножко пошевелились, в суде том же.

**– Законы в Беларуси работают?**

– Работают очень однобоко. Скажем так, для сотрудников милиции сейчас, для правоохранительных органов в целом они работают очень хорошо. Их защищают, их обеспечивают всем необходимым, а законодательство других сфер, всё, что касается обычных людей, то, конечно, всё игнорируется. В целом, я считаю, законодательство наше нужно полностью пересматривать, потому что оно не работает на людей, а оно работает на власть.

**– Были ли угрозы и давление в ваш адрес?**

– Давление постоянно оказывается. В последний раз, когда меня задержали 15 сентября, мне один милиционер в открытую сказал: ну вот чего ты этим занимаешься, тебе 25 лет, иди детей рожай, зачем тебе этим заниматься? Также вот буквально на днях, наверное, 20 сентября, мне начали приходить сообщения от неизвестных людей в «Телеграме». Они писали полностью мои фамилию, имя, отчество: мы вот вас видели в Жодино в эти выходные (хотя я там не была) и как бы предупредили, что будьте осторожны, потому что могут быть к вам применены всякие там санкции, мы бы на вашем месте поаккуратнее ходили и все такое и задумались о своем будущем… Я попросила передать привет всем сотрудникам милиции. Сказали: хорошо, обязательно передадим, но вы будьте аккуратны, мы за вами следим.

**– Что скажете про разных комментаторов в интернете?**

– Я считаю, что они на самом деле боятся, поэтому так и говорят. То есть они поэтому громче всех кричат, и мне кажется, что все это от страха. От страха каких-то перемен, у них была, наверное, не самая лучшая молодость, поэтому они боятся вернуться в то время, и, наверное, их можно понять отчасти.

А насчет избиения – я теперь уже четко могу всем ответить, кто говорит, что избиений никаких не было на самом деле. Вот 15-го числа, пока я ждала, когда нам освободят камеру в ИВС, потому что не было свободных, к сожалению, я общалась с сотрудником милиции, который мне в открытую признался: да, 9–10 били, сильно били, было такое, но сейчас же не бьем, тебя же вот не побили. Ну, я говорю: спасибо за то, что не побили. То есть я считаю, что в стране, где милиционер свободно говорит о том, что ну да, били людей, для них это норма, это говорит о том, что в стране проблемы определенные есть. И все эти сторонники нынешней власти просто должны понимать, что этот режим рано или поздно коснется каждого. Сегодня избили там непонятного человека, а завтра изобьют твоего соседа, друга, брата, сына. Рано или поздно это коснется всех.

*(Ex-press.by)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



# Театр во… дворе

Последнее событие, убедившее меня в особой роли театра сегодня, –труппа Гродненского областного драматического театра 26 сентября сыграла отмененный спектакль не на специально оборудованной сцене и со зрителями в зале, а в… одном из дворов.

Его смотрели 400 человек. Аншлаг. Столько могло бы посмотреть и в зале. Но посмотрели на улице.

Посмотрели «451 градус по Фаренгейту».

Для незнающих или забывших: это температура, при которой горит бумага. Температура, при которой сжигают книги.

Рэй Брэдбери, великий американский фантаст, написал свой роман как предупреждение. Книги можно сжечь. И их будут сжигать. Но нельзя сжечь человеческий разум, человеческие эмоции. Книги можно запретить. Но нельзя заставить людей забыть Библию и «Дон-Кихота», Шекспира и Пушкина, Марка Твена и Короткевича, Стендаля и Данте. Нельзя. Потому что без них нет жизни.

В романе Брэдбери говорится о власти, которая получила возможность определять, что хорошо, а что – нет, что правильно, а что заслуживает порицания. Людей там хватают на улицах лишь потому, что подозревают: у них могут быть книги. И сжигают их дома, потому что те, кто читает книги, должны быть наказаны.

Но в какой-то момент главный герой прозревает. И обращает пламя против тех, кто приказывает ему сжечь книги.

В репортаже со двора, где прошел отмененный на сцене спектакль, отмечалось: в этот момент зрители взволнованно начали шептаться. Потому что слишком понятное желание возникало в последние месяцы у многих.

«Задние ряды» – те, кого в зале назвали бы «галеркой», – вслушивались и вглядывались в происходящее, когда за спинами их самих стояли серые автозаки. Не красные пожарные автомобили, описанные у Брэдбери. Но тоже – сменившие свои функции. У Брэдбери задача новых пожарных была не в том, чтобы тушить пламя, а в том, чтобы поджигать груды книг, раздувать огонь. А здесь вместо того, чтобы охранять покой граждан, «правоохранители» били их дубинками, калечили, заставляли признаваться в том, чего люди не совершали. Параллель кошмарная, но совершенно не фантастическая.

Во время гродненского спектакля все обошлось, судя по всему, мирно. На этот раз автозаки уехали пустыми. Возможно, те, кто сидел за рулем, захотели досмотреть спектакль до конца.

Для меня это важно по двум личным причинам.

Первая: Гродненский облдрамтеатр был первым театром, куда мама водила меня еще школьником. Я помню первые спектакли, которые видел – страшно подумать – в 1971 году. И самый первый – новогоднюю сказку «Жила-была Сыроежка». В старом еще здании, на площади Ленина, где сейчас кукольный театр.

Вторая: роман Рэя Брэдбери до сих пор одна из моих самых любимых книг. Страшная по силе воздействия. А сейчас еще и страшная по силе предвидения.

Но есть еще одна причина. Театр, как писал великий британский режиссер Питер Брук, начинается тогда, когда хотя бы один человек пытается сказать языком искусства что-то важное еще одному человеку. Для театра нужно двое – не меньше.

И язык искусства становится языком всеобъемлющим. Языком правды. Высшей правды. В конце концов, весь мир – театр, если следовать Шекспиру.

Я не знаю, где будут играть свои постановки купаловцы, всем коллективом ушедшие из театра в знак протеста против того, что власти творят в стране. Но я убежден: опыт Свободного театра во главе с Николаем Халезиным, играющего за пределами родины, но остающегося при этом мощным фактором идеологического воздействия в Беларуси, будет востребован сегодня.

Можно запретить играть спектакли в Гродненском областном театре. Но гродненцы будут смотреть постановки своей труппы во дворах, на улицах, в квартирах.

Да, у этих спектаклей не будет государственного финансирования. И это очень тяжело – для самих актеров и режиссеров. Но через какое-то время каждый из них, или большинство, трудоустроится. И профессиональный театр превратится в великолепную полупрофессиональную студию, где самореализация будет важнее того факта, что зарабатывают все эти люди в другом месте.

Именно театр становится сегодня важнейшим из искусств для свободной и свободно мыслящей Беларуси. Оставим лукашенкам их солодух и сестер груздевых. Они для нас – чужие милые, не более. Так почему мы должны удерживать их с собой? Пусть останутся тем, для кого они реально значат больше Брэдбери и Купалы, больше Пинигина и Мушперта.

А себе мы оставим – Театр. То есть – весь мир!

НЕЗВЫЧАЙНЫ ВЫПАДАК

# «Не магла застацца ўбаку»

*Прыехала са Швейцарыі на радзіму і апынулася за кратамі*



Беларуску **Наталлю Хершэ** са Швейцарыі арыштавалі на 15 сутак за ўдзел у жаночым маршы ў Мінску 19 верасня. Цяпер яе падазраюць у супраціўленні супрацоўніку органаў унутраных спраў з прымяненнем гвалту (артыкул 363.2 КК).

Брат Наталлі Генадзь жыве ў Маладзечне, раней працаваў доктарам, цяпер – у фармацэўтычнай кампаніі. Ён расказаў Радыё Свабода, што сястра прыехала ў Беларусь амаль два тыдні таму, яна спынілася ў Мінску на кватэры сваёй сяброўкі.

– *Наталля хацела на свае вочы пабачыць, што адбываецца ў Беларусі, і ўзяць удзел у мірных акцыях,* – кажа брат затрыманай. – *У той дзень яна была разам з усімі, хто прыйшоў ратаваць хлопчыка Арцёма, якога забралі ў прытулак у маці-актывісткі. Пасля таго як Арцёма вярнулі бацькам, Наталля разам з іншымі жанчынамі пайшла на "Марш салідарнасці".*

Генадзь дадае, што сачыў за гэтым маршам анлайн і ўбачыў у калоне сваю сястру з разгорнутым бел-чырвона-белым сцягам.

– *Яна даволі яркая асоба і трапіла на здымкі,* – гаворыць ён. – *Калі пайшла інфармацыя пра затрыманні, я ёй патэлефанаваў. Чую жаночы голас: "Якое права вы маеце нас затрымліваць? Што мы парушылі?" Потым Наталля сказала мне, што яе затрымалі. Яшчэ мы перапісваліся праз вайбер, калі яна была ўжо ў аўтазаку. У той дзень схапілі каля 300 чалавек, і мы спадзяваліся, што яе хутка адпусцяць, бо яна нічога не парушала. Але яе не адпусцілі, як і яшчэ 17 чалавек, а даставілі ў ізалятар на Акрэсціна.*

Пра тое, што сястра на Акрэсціна, Генадзь даведаўся толькі ў панядзелак, бо ў міліцыі раней яму не давалі інфармацыі. 22 верасня яе справу разглядаў суд Савецкага раёна г.Мінска і пакараў 15 суткамі арышту паводле артыкула 23.34 аб масавых мерапрыемствах.

– *Я не мог зразумець, чаму такое жорсткае пакаранне, бо сотні ж чалавек адпусцілі,* – кажа Генадзь.

## …Нібыта сарвала балаклаву з амапаўца

Пазней Генадзю стала вядома, што Наталлі таксама інкрымінуюць абвінавачанне паводле крымінальнага артыкула 363.2 (супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў з прымяненнем гвалту альбо пагрозай яго прымянення) за тое, што яна нібыта сарвала балаклаву з амапаўца. Генадзь звярнуўся да ўдзельніц маршу, якія былі разам з Наталляй. Мужчына просіць іх адгукнуцца.

– *Былі выпадкі, калі жанчыны зрывалі маскі з амапаўцаў,* – кажа ён. – *Але гэта, я лічу, ніякая не крымінальная справа, калі жанчына зрывае маску з чалавека, які чыніць гвалтоўныя дзеянні і не прадстаўляецца. Яе затрымлівалі чацвёра. Я думаю, што гэтыя беспадстаўныя абвінавачанні рассыплюцца.*

– *У аўтазак яе цягнулі чатыры амапаўцы, і адзін быў без балаклавы,* – працягвае Генадзь. – *Я не думаю, што такая далікатная жанчына магла прымяніць гвалт да сілавіка.*

Наталлю судзілі як грамадзянку Беларусі, але яна мае і пашпарт Швейцарыі, дзе выйшла замуж і жыве больш за дзесяць гадоў.

## Узяла адпачынак, каб прыехаць у Беларусь

Наталля ў Беларусі скончыла эканамічны ўніверсітэт і працавала бухгалтаркай. Але з'ехала за мяжу, бо ёй не падабалася палітычная сітуацыя ў краіне і яна не бачыла тут для сябе ніякіх перспектыў.

– *У яе быў адпачынак, і яна вырашыла прыехаць у Беларусь. Казала, што не можа застацца ўбаку, бо лічыць сябе беларускай.*

Генадзь падтрымлівае сваю сястру і перакананы, што мірныя пратэсты абавязкова будуць мець вынік.

– *Народнае мірнае паўстанне дасць вынік. Наталля казала, што не можа быць у гэтыя хвіліны не ў Беларусі, і яна прыляцела сюды, каб выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. І гэтую далікатную жанчыну асудзіць на 15 сутак ды яшчэ прышыць крымінальную справу – гэта сваволя. Помста ўлад, людзей у масках, якія не разумеюць, што твораць. Але ранейшай Беларусі ўжо не будзе. Рэжым прагніў, і тайная інаўгурацыя гэта ярка паказала,* – упэўнены Генадзь.

НУ І НУ!

# Восем пратаколаў за гукавы сігнал?

*Актывіста Змiцера Дашкевiча збiраюцца пакараць за тое, што сiгналiў у падтрымку ўдзельнiкаў нядзельнага маршу.*

*"27 верасня ехаў на машыне і вітаў удзельнікаў маршу гукавымі сігналамі,* – кажа Зміцер. – *Спынілі супрацоўнікі ДАІ. Забралі тэхпашпарт на аўтамабіль, паабяцалі скласці аж восем пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях. Са своеасаблівым гумарам дадалі: "Восем разоў сігналіў – таму і будуць складзены восем пратаколаў".*

Зміцер Дашкевіч кажа, што ў краіне сёння пануе поўнае беззаконне, таму могуць вынесці абсалютна любое рашэнне.

**Віктар ШПАК.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО



# Спой, светик, не стыдись…

Скандал с украденной песней, который случился на провластном концерте 17 августа в «Минск-Арене», обсуждался в обществе не так долго, как он заслуживает, и мне, в общем-то, понятно почему. Слава Богу, в тот вечер никого не покалечили, не убили, как это, бывает, происходит в Беларуси, а просто еще раз прилюдно растоптали общественную мораль. А это, к сожалению, мы наблюдаем уже который месяц подряд: нам лгут в глаза, силой заставляя считать бесстыдство нормой жизни.

Конечно, нас корежит от такой феодальной наглости власти. И ни в коем случае нельзя сказать, что мы смирились, свыклись с унижением достоинства. Но про **Стефанию Соколову**, чьим голосом и чьей песней воспользовались без разрешения на концерте в «Минск-Арене», мы тем не менее уже немного подзабыли. А, по-моему, стоит еще раз обсудить это преступление (да, его можно считать уголовным преступлением – воровство авторских прав!), которое совершили взрослые, втянув в него еще и несовершеннолетнего ребенка.

Напомню канву события. Талантливая белорусская певица, 15-летняя Стефания Соколова, участница и победительница многих детских вокальных международных конкурсов, не смогла (не захотела – в данном случае это синонимы) выступать 17 сентября в «Минск-Арене». Тогда организаторы концерта ничтоже сумняшеся выпустили на сцену другую девочку-подростка, которая просто открывала рот под стенограмму Соколовой – по крайней мере так это выглядело в онлайн-телеверсии (а как было в зале, теперь не докажет никто). Свой поступок они объяснили тем, что «спасали номер». На самом деле взрослые дяди и тети спасали, конечно, свои должности и зарплаты – или шкуры, как говорят в народе. Грубо, но совершенно очевидно.

Конечно, ложь, подлог открылись моментально. Наутро услышала и узнала свой голос в телеэфире Стефания, услышала свою песню ее мама Елена Гончаренко, автор музыки и слов, вокалистка Национального центра музыкального искусства имени Мулявина при Молодежном театре эстрады. Семья была в шоке, если не сказать больше. Их чувства понятны, и все честные и морально здоровые люди Беларуси, конечно же, на их стороне.

А вот у меня вопрос: что чувствовали люди, которые осознанно пошли на подлог? Неужели они совершенно потеряли стыд и страх? Например, та же **Владислава Артюковская**, художественный руководитель Молодежного театра эстрады и режиссер номера, да и другие «творцы» концерта? Они, профессионалы, прекрасно понимали, что обман раскроется моментально, что их репутации будет нанесен ущерб, что музыкальное сообщество поставит на них метку на всю оставшуюся жизнь – такое в творческой среде не забывается. И спокойно переступили через мораль, наплевав на такие «условности». А что? За ними же сама власть! О, они уверены, что находятся под ее крепкой защитой, что сила в любом случае на их стороне – то есть на стороне обмана.

Что ж, сегодня даже государственная ложь охраняется приказами свыше. И это, конечно, катастрофа: общество разлагается изнутри, и этот случай с песней – очевидный пример того, что метастазы пошли по всему общественному организму. И что страшно (напоминаю об этом еще раз), некоторые участники скандала – педагоги. Что, на мой взгляд, в сто раз усугубляет ситуацию. Наши педагогические кадры, которые так запятнали себя во время работы в избиркомах, вызывают у меня уже биологический страх: неужели там столько безнравственных людей? Как же мы доверяли им столько лет воспитывать будущее нации?..

Очень жаль, что Елена Гончаренко, автор песни и мама Стефании Соколовой, проявила определенную слабость, отказавшись подавать в суд на организаторов концерта. Даже если не брать в расчет, что другой человек открывал рот под фонограмму с голосом ее дочери, нарушены, в конце концов, конкретно ее, композитора и автора слов, права. Но, говорит Елена, она надеялась на публичные извинения: «Думала, что произошло недоразумение». Вот настоящая белоруска, ее посадили на кнопку, она решила не жаловаться, думала: а вдруг так и надо…

Но, конечно, Елена прежде всего пожалела чужую девочку, которая была на замене. Конечно, ребенком воспользовались как неодушевленным предметом, возможно, вокалистка, действительно, не знала, что открывает рот под чужую фонограмму, не знала, что поет на сцене в выключенный микрофон. Тем не менее остается вопрос о том, что песню для другого исполнителя взяли без разрешения автора. «А теперь, – говорит Елена Гончаренко, – педагог из продюсерского центра «Спамаш» **Татьяна Трухан**, чья ученица, собственно, и попала, благодаря взрослым, в эти жернова, вдруг в соцсетях стала агрессивно наступать на нас, утверждая, что все справедливо, а мы просто хотим хайпануть... А сначала Татьяна совсем иначе себя вела, говорила: «Я на колени встану…» – лишь бы не раздувать огонь скандала…»

Но, видно, человек почувствовал поддержку сильных мира сего. И пошел в наступление.

Да, с людьми сейчас происходят такие метаморфозы!.. Все с ног на голову. Некоторые знакомые Елены, как с горьким вздохом добавила женщина, даже спрашивают ее: «Может быть, тебя уже уволили с работы?» Конечно, это произносится в некотором роде в шутку, но, чтобы так шутить, надо чувствовать, что в государстве сейчас нет законов и нет морали: все попрано, растоптано и забыто. Что человека сейчас можно запросто лишить работы за гражданскую позицию, за то, что он смеет отстаивать свое человеческое достоинство. Что любого можно обвинить в чем угодно, даже в том, что он сам у себя украл песню и исполнил ее чужим голосом. А для подкрепления еще и штраф ему впаять. Чтобы сильно не выступал. А если все же пригласят выступить, то фонограмму сами поставят – какую захотят. Что, кстати, мы ежевечерне наблюдаем в новостях на белорусском телевидении. Но это уже тема для следующей колонки.

КАНФЛІКТ

# Як за бел-чырвона-белы колер звольнілі з працы

Супрацоўніцу ваўкавыскай раённай газеты "Наш час" **Наталлю Мазалевіч** звольнілі з працы за тое, што з яе ініцыятывы нумар газеты выйшаў з шапкай (лагатыпам) у бел-чырвона-белым колеры.

## Перадгісторыя

Наталля Мікалаеўна адпрацавала ў газеце "Наш час" 17 гадоў, займалася яе вёрсткай.

Што тычыцца звальнення, распавядае Мазалевіч, варта вярнуцца трошачкі ў мінулае. Яшчэ перад выбарамі яна вызначылася, за каго будзе галасаваць, пры гэтым нікога і ні за што не агітавала.

Аднак пасля жнівеньскіх падзей, калі ў газеце пачалі друкаваць хваласпевы ўладзе, а не інфармацыю пра збіццё мірных людзей, яна напісала заяву на звальненне.

"*Напісала, што мая грамадзянская пазіцыя не супадае з пазіцыяй наймальніка, а таму прашу звольніць па ўзгадненні бакоў*", – удакладняе жанчына.

Праўда, адміністрацыя адмахнулася: маўляў, працуй да сканчэння кантракта. Наталля Мікалаеўна пачала вывучаць іншыя тэхнічныя праграмы, каб у далейшым перакваліфікавацца для новай працы, але моўчкі працягвала выконваць свае службовыя абавязкі.

"*Толькі вось з кожным днём гэта станавілася рабіць цяжэй, паколькі ў краіне і нават у нашым горадзе адбываліся адны падзеі, а газета працягвала пісаць пра іншае,* – распавядае Мазалевіч. – *А я ўсё гэта вельмі глыбока праз сябе прапускала, асабліва калі збівалі людзей*".

## Работнікаў газеты пачалі называць прыкарытнікамі

Паводле слоў маёй суразмоўніцы, яна ўвесь час імкнулася, каб газета аб'ектыўна асвятляла падзеі ў раёне. Але з гэтай думкай начальства не лічылася.

А з-за таго, што з нумара ў нумар друкаваліся толькі хвалебныя матэрыялы пра дзейнасць улад, а ні радка не пісалася пра пратэсты і праблемы жахароў горада і іншых рэгіёнаў краіны, нават чытачы сталі негатыўна ставіцца да супрацоўнікаў газеты.

"*Нам пісалі розныя непрыгожыя словы праз інтэрнэт, называлі прыкарытнікамі і г.д.*", – кажа Наталля.

Хаця зазначае, што ў калектыве палова журналістаў за тое, каб газета друкавала не толькі праўладныя агіткі, але і думкі людзей, якія выходзяць пратэставаць на плошчу.

## «Гэта быў мой асабісты пратэст»

Наталля Мікалаеўна распавядае, што да вёрсткі кожнага нумара газеты падыходзіла творча. А што тычыцца шапкі (лагатыпа), з нумара ў нумар змяняла яго колеры ў залежнасці ад тэматыкі.

Перадапошні нумар з інфармацыяй аб праўладным мітынгу быў чырвона-зялёны, а апошні яна зрабіла бел-чырвона-белым, паколькі тэматыка тычылася гадавіны ўтварэння Гродзенскай вобласці, былі іншыя гістарычныя матэрыялы. І гэта здавалася лагічным.

"*На самай справе, я расфарбавала лагатып газеты ў колеры, якія сталі атаясамлівацца ў Беларусі з пераменамі, паколькі не цярплю хлусні і падхалімства. І гэта быў мой асабісты пратэст*", – кажа Наталля Мазалевіч.

Сама яна нават не дапускала, што нехта можа звярнуць увагу на такі яе асабісты пратэст. Але ўсё ж звярнулі…

"*Пасля таго як газета выйшла ў свет, нехта, відаць, з начальства пабачыў, што лагатып з чырвона-зялёнага змяніўся на бел-чырвона-белы, і да мяне прыйшоў кіраўнік і прынёс загад аб маім звальненні. Атрымалася, што за папярэдні нумар мяне пахвалілі, а за апошні – звольнілі*".

Мазалеўская не стала пярэчыць загаду, хаця юрысты прапаноўвалі яго абскардзіць.

"*Але ў мяне ўжо больш няма ні сіл, ні жадання жыць ва ўсім гэтым і безвынікова супраціўляцца*", – заключае мая суразмоўніца.

## Пакуль без працы, у пошуку…

Зараз жанчына не мае працы, спрабуе нешта шукаць праз інтэрнэт, але пакуль без поспеху. У невялікім Ваўкавыску, дзе і прыватны бізнес у стагнацыі, знайсці працоўнае месца вельмі складана.

"*Так, мне страшна, і я не ведаю, што будзе далей,* – кажа жанчына. – *Але мяне падтрымліваюць сын і муж. Урэшце я адчуваю сябе свабодным чалавекам*".

Напрыканцы размовы Наталля Мікалаеўна кажа, што ўсё ж вельмі жадае, каб у газеце "Наш час" побач друкаваліся і гісторыі людзей, якія пацярпелі ад сілавікоў, і матэрыялы тых, хто падтрымлівае дзеючую ўладу.

Яшчэ ёй хочацца, каб перадавіцы газеты акрылялі, а не выклікалі ў чытачоў раздражненне і скепсіс.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЦЭНЫ

# З 1 кастрычніка падаражэлі некаторыя маркі цыгарэт

Сярод цыгарэт Гродзенскай тытунёвай фабрыкі "Нёман" на 10 капеек даражэюць Kent (Blue, Nano Blue, Navy Blue, Nano Silver, Nano White, Switch, Silver, Feel Aroma, Feel Aurum, Mode Blue, Mode Silver, Mix Purple Fresh, Mix Red Breeze, White).

Што датычыцца ТАА "Тытунь-інвест", даражэйшымі на 5 капеек стануць цыгарэты Sobranie Caster.

"Інтэр Табака" і "Энерга-Оіл" на 10 капеек павялічаць цэны на Marlboro (red, gold), Parliament (Niqht Blue, Aqua Blue).

Вырастуць у цане цыгарэты, што ўвозяцца "Беларусьгандлем": на 15 капеек – Davidoff (Classic, Gold, Gold Slims), на 10 капеек – Davidoff (Refine White, Refine Black), Parliament (Niqht Blue, Aqua Blue), Marlboro (red, gold) і іншыя.



Народная Воля http://www.nv-online.info
2 КАСТРЫЧНІКА 2020 г.

АПАВЯДАННЕ

Анатоль ЗЭКАЎ

# ТРЭЦІ


Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

Ігнат сядзеў на ўслончыку на падворку, прытуліўшыся да шулы хаты, старой, як і ён сам, і, жвава слізгаючы нажом, абразаў лазовыя дубцы. Як яшчэ змалку прызвычаіўся плесці кошыкі, так не развітваўся з гэтым сваім заняткам і дасюль. Ды і кошык – рэч такая, у вёсцы без яго нельга. Здаецца, колькі тае работы, нават іншы раз у ахвотку, а карысць вялікая. Глядзіш, папросіць нехта, зробіш, а ён табе з сенам дапаможа ўправіцца ці бульбу на сотках увосень выкапаць. Праўда, было, што Ігнат і проста за "дзякуй" дарыў кошыкі вяскоўцам – анягож не збяднееш: былі б сілы, а лазы на Гарэлым балоце – покуль жыць, усю не зрэзаць. Так што, лічы, Ігнатавы кошыкі ледзьве не ў кожнай хаце ў іхніх Галах былі.

Не пакінуў свайго занятку Ігнат і калі пачалася вайна. Хай сабе і не да кошыкаў вяскоўцам, калі не ведаеш, што цябе заўтра чакае, аднак і без справы сядзець Ігнат не мог. Ды і вайна ж не на ўсё жыццё, скончыцца – вось і спатрэбяцца кошыкі. А ці здолее ён ужо тады выбрацца ў тое балота за лазовымі дубцамі – аднаму Богу вядома: што ні кажы, а сілы пакідаюць. Хоць яшчэ, мусіць, і не такі стары – год назад шэсцьдзесят стукнула, ды, відаць, падзнасіўся за жыццё гаротнае. Не мёд жа лыжкай сёрбаў штодня, было, што і на бясхлебіцы перабіваўся. А тут яшчэ радыкуліт насеў – не ношка ж сена, не скінеш з плячэй. З-за радыкуліту праклятага і ў партызаны не падаўся, як Захар, яго сусед-аднагодак, бо ведаў: у той лясной-балотнай сырасці і вокам не міргнеш, як скруціць. А які з яго, скручанага, ваяка. Адны толькі клопаты партызанскаму начальству. Дый што тады застанецца рабіць у атрадзе: сядзець ля цёплага вогнішча ды плесці кошыкі? Але каму яны там патрэбны ў лесе, ягоныя кошыкі? Ды і вогнішча не заўсёды запаліш. Так што, разважаў, няхай ужо сыны (а іх у Ігната двое – і абодва зараз на фронце) ваююць і за сябе, і за бацьку.

Ігнат падраўняў дубцы і акурат узяўся выгінаць апорную дужку пад будучы кошык (здаецца, імгненне – і пачне нанізваць на яе гонкія карычнявата-зялёныя дубцы), як зводдаль, з кожнай хвілінай набліжаючыся да двара, пачулася картавая нямецкая гаворка ўперамешку з мястэчковай. Напачатку не звярнуў увагі, бо за апошнія месяцы, калі і ў іх вёску пачалі наязджаць немцы, прывык ужо, але ж, калі галасы сталі чутны больш выразна, насцярожыўся. І так заўсёды: хоць і не ўпершыню сутыкаўся з немцамі, аднак прывыкнуць да чужой гаворкі не мог. Штосьці ненатуральнае было ў гэтым, нязвыклае для вёскі, дзе здалёк пазнаваў голас таго ці іншага вяскоўца.

Параўняўшыся з дварам, фурманка, на якой акрамя вазака сядзелі два немцы, спынілася. Але, як заўважыў Ігнат, гэта былі не ўсе "госці". Па дарозе, што вынырвала з-за суседавай хаты, падцягваліся да двара яшчэ дзясяткі паўтарадва ўзброеных мужчын, відаць, паліцаяў, бо былі апрануты хто ў чым. Калі яны падышлі да фурманкі, двое немцаў, што сядзелі на возе, саскочылі на дол і няспешна накіраваліся ў двор. Даўгалыгі паліцай, які тым часам паспеў забегчы наперад, піхнуў нагой брамку, і яна, заскавытаўшы, з ляскатам расхінулася. Але заходзіць у двор немцы не сталі. Загергеталі аб нечым сваім, а потым той, што быў з аўтаматам, звяртаючыся да Ігната, гукнуў:

– Фатэр, ком цу мір!

Ігнат апусціў у кішэню ватоўкі нож, зняў з прыполу і кінуў на прызбу лазовыя дубцы. Абапёршыся далонню на край услончыка, цяжка крэкчучы, прыўзняўся.

"Цу мір, цу мір… – засвідравала ў галаве. – Ведаем мы гэты ваш "мір"…"

Ідучы насустрач немцам, Ігнат адчуў нешта няладнае.

Рыжы, танклявы, як качарга, аўтаматчык, які клікаў Ігната да сябе, тым часам дастаў з-за пояса біклагу і, высока закінуўшы, быццам гусак, галаву, каўтнуў. Потым перадаў біклагу немцу, які стаяў побач. Той, зрабіўшы глыток, вярнуў пасудзіну назад, не зважаючы на паліцая, які, відаць, таксама быў не супраць прыкласціся да металічнай гарлянкі.

Ігнат падышоў, сказаўшы ўжо завучанае "гутэн так", на што яму ніхто не адказаў. Аўтаматчык штурхнуў пад бок паліцая, які ў адно імгненне выцягнуўся, бы толькі і чакаў гэтага штуршка, і зычна скамандаваў:

– Бацька, каня трэба напаіць! Ды хутчэй шавяліся, а то як нежывы!

Немцам спадабаўся тон, з якім гэта вымавіў паліцай, – і яны зарагаталі.

Ігнат пашкандыбаў у хату і неўзабаве вынес вядро. Хацеў адразу падацца і да студні, аднак, бачачы, як марудна ён рухаецца, Ганс (так звалі, як пачуў Ігнат, другога, ніжэйшага ростам, з пабітым воспай тварам немца) выхапіў з рук вядро і перадаў паліцаю:

– Шнэль сам! Няма калі зітцэн!

І той борздзенька засігаў па вуліцы да студні.

Ігнат агледзеўся навокал, і толькі зараз яго позірк выхапіў двух чалавек, якія ляжалі на павозцы. Твары ў іх былі збітыя да крыві, рукі заламаны назад, відаць, звязаны вяроўкай ці дротам – гэтага Ігнат не бачыў.

Пакуль паліцай паіў каня, Ігнат стаяў ля брамкі, не ведаючы, што рабіць і ці трэба ён увогуле тут. Аднак запытаць пра гэта не адважваўся, дарэчы, як і ў двор сунуцца без каманды. А немцы і паліцаі на яго не зважалі – быццам і не існавала Ігната.

Конь, мабыць, дабраўся да дна, бо чулася, як прысёрбваў ваду. Паліцай, выцягнуўшы вядро з-пад конскай пысы, шпурнуў яго да Ігнатавых ног.

Ігнат сагнуўся, падняў вядро, але ісці ў двор па-ранейшаму не рашаўся. Толькі калі тыя два немцы, Ганс і аўтаматчык, скіравалі да воза, Ігнат таксама крануўся з месца. Але не паспеў зрабіць і двух крокаў, як зноў гукнулі:

– Эге-гей, давай збірайся! З намі паедзеш...

Чаго-чаго, а гэтага Ігнат не чакаў. "З чаго б гэта, – падумаў, – я ім спатрэбіўся? Можа, учулі, што да мяне ноччу партызаны заходзілі, бульбы прасілі? Але ж наўрад ці... Бо, каб ведалі пра гэта, размова б іншай была. Доўга б не чыкаліся, адразу б пад пахі і на воз, побач з тымі двума. Тады што? Няўжо хочуць у паліцаі сасватаць? Але ж які з мяне, старога ды нездалячага, паліцай?"

Хацеў паскардзіцца на немач сваю, папрасіць, каб кінулі яго, не валаклі з сабой, аднак ад нечаканасці не мог варухнуць языком – нібы праглынуў. Так і стаяў паміж брамкай і возам, пакуль той, з аўтаматам, не сказаў, паказваючы на воз:

– Біттэ зітцэн! – І, звяртаючыся да паліцая, што быў за возчыка: – Генуг! Фатэр павязе...

Ігнат, не ачомаўшыся ад усяго, моўчкі ўскараскаўся на воз і сеў у перадок на месца, якое саступіў яму паліцай, узяў у рукі лейцы.

"А вось усё і добра будзе, – падумаў. – Адвязу іх, куды трэба, і адпусцяць. Навошта я ім, стары, нездалячы? Як піць даць, адпусцяць".

Да Коршунаўкі, дзе стаяў паліцэйскі гарнізон, ехалі добрых паўтары гадзіны. Мусіць, і хутчэй дабраліся б, каб гналі каня, але дарога была грузкая і асабліва разагнацца не выпадала. Ды і каб можна было, наўрад ці рабілі б гэта, бо адрывацца ад паліцэйскіх, што шкандыбалі ззаду, відаць, было ўсё ж рызыкоўна.

Уехаўшы ў вёску, адразу завярнулі на школьны двор. Праўда, школьным ён быў да вайны, а калі прыйшлі немцы, тут атабарыліся паліцаі.

Пасярод двара спыніліся. Двое фашыстаў з Ігнатавага воза – яны пэўна былі ў абозе галоўнымі – падаліся да школьнага ганка. Курт – так звалі таго, што з аўтаматам (гэта Ігнат даведаўся, калі ехалі) – на хаду скамандаваў, паказваючы на воз, дзе ляжалі звязаныя:

– Партызанен, цу мір!

Трое паліцэйскіх падышлі да воза, паднялі партызан. Штурхаючы іх вінтоўкамі ў спіны, скіравалі ў будыніну. Туды ж, пакінуўшы двух чалавек на варце, пацягнуліся і амаль усе астатнія паліцаі.

Ігнат, нейкую хвіліну пасядзеўшы на возе і не ведаючы, што рабіць далей, бо на яго ўсе раптам забыліся, няспешна злез і, узяўшы з драбін ахапак сена, кінуў каню. Ды так і застаўся стаяць, падштухоўваючы нагой сена бліжэй да конскай пысы. Колькі так стаяў – не памятаў, як і не памятаў, пра што думаў. Можа, пра тых двух, з якімі зараз невядома што рабілі ў будынку, ці мо пра сыноў, што ваююць недзе на фронце, не падазраючы нават, у якую недарэчную сітуацыю трапіў іх бацька.

Ачомаўся, калі недзе за вуглом школы пачуў галасы, пераважна жаночыя і дзіцячыя. А ўзняўшы галаву, убачыў і саміх мястэчкоўцаў. Крыху зводдаль заўважыў і паліцаяў, якія скіроўвалі жанчын, дзяцей і старых – а хто ж яшчэ ў мястэчку застаўся? – у школьны двор. Чаму іх сюды зганяюць, зразумеў, хіба калі з будыніны вывелі двух расхлістаных партызан і павялі да школьных варот-перакладзіны, на якой паліцаі ладкавалі дзве вісельні. Стала жахліва – хоць ты скрозь зямлю праваліся, каб нічога не бачыць і не чуць.

– А ты што, бацька, стаіш? – гукнуў, выходзячы з будынка школы, ужо знаёмы паліцай. – Давай з намі.

Ігнат нехаця пасунуўся ўслед. Хацеў стаць у людскі натоўп, але ўсё той жа паліцай спыніў яго: стой, маўляў, з намі. Для чаго, Ігнат не разумеў.

Калі наперад выйшаў франтаваты афіцэр (відаць, самы галоўны, які сядзіць тут, у штабе гарнізона, вырашыў Ігнат, бо ў абозе, у якім яны прыехалі сюды, яго не было), натоўп, і без таго напалоханы, раптам сцяўся. Нават дзеці перасталі румзаць, ухапіліся за падолы матчыных сукенак.

Афіцэр гаварыў па-нямецку. І калі б перакладчык і не перакладаў старанна кожнае слова, усім было б зразумела, што сагналі іх сюды, каб паглядзелі, як немцы распраўляюцца з тымі, каго называюцьляснымі бандытамі...

Калі прамова была скончана і партызан падвялі да вісельні, натоўп зноў заварушыўся, зарумзалі дзеці, усхліпнулі бабы. Паліцаі, якія перад гэтым майстравалі вісельні, падштурхнулі партызан да табурэтак.

"Хутчэй бы скончыўся ўвесь гэты кашмар", – думаў Ігнат, стараючыся не глядзець у натоўп, каб, крый Божа, не натыкнуцца на чый-небудзь позірк. І калі афіцэр, нядаўні прамоўца, самазадаволена ўсміхаючыся, кіўнуў яму на вісельню і рэзка махнуў нагой, як бы жэстам паказваючы тое, што павінен зрабіць Ігнат, старога аж потам прабрала.

"Дык вось для чаго мяне цягнулі за сабой, – змікіціў Ігнат. – О, не, хай заб'юць, хай павесяць побач з тымі двума, толькі не гэта".

Гледзячы ў вочы афіцэру, крутнуў галавою.

– Вас? – гаркнуў афіцэр, ухапіўшыся за пісталет: здаецца, імгненне – і Ігната наскрозь прашые куля. І раптам быццам нейкая невядомая сіла прымусіла яго паддацца загаду. Нічога не бачачы наўкол, акрамя табурэтак, як ачмурэлы, Ігнат пасунуўся да вісельні…

Дахаты Ігната не пусцілі – адвялі на ноч баковачку ў школьным будынку. Ды яму і не вельмі каб хацелася дамоў, бо нешта ўмомант надламалася ў Ігнатавым жыцці, кінула ў невядомы дагэтуль вір.

Перад вачыма стаяў сённяшні дзень. Дзіўная рэч: як правіла, пражыты дзень помніш поўнасцю, да самай маленькай драбніцы. З часам, праўда, многае забываецца, цэлыя дні, а то і месяцы, але каб вечарам не помніць таго, што было з табой раніцай, – такога з Ігнатам яшчэ не здаралася. А тут, хоць галаву адсячы, не помніць.

Ігнат асцярожна, каб нікога не разбудзіць, падняўся, выцягнуў з-пад галавы ватоўку, накінуў на плечы. Гэтак жа асцярожна вышмыгнуў на двор. У грудзі адразу ўдарыла свежым паветрам, з цеплыні аж перасмыкнула ўсяго.

Ноч была ядраная, бралася на восень. Хмары, якія звечара густой коўдрай-навіссю зацягнулі неба, зрабілі ноч бяззорнай, і ад гэтага станавілася яшчэ больш непрыемна. Але разам з тым такая акалічнасць, калі навокал цемень, хоць вока выкалі, і радавала Ігната. "У цямрэчы знікнеш, дык шукаць ніхто не адважыцца, – думаў ён. – Пастраляюць, канечне, для адводу душы, калі спахопяцца, што мяне няма, але што з таго, калі я буду ўжо далёка адсюль".

І наколькі гэта ўзрадавала Ігната, настолькі і засмуціла. Нават напалохала. Падумалася: а што, калі і страляць не будуць, і ніхто шукаць не ўздумае? Зробяць выгляд, што нібыта і не заўважылі: знік дык знік – не вялікая бяда. Справу сваю зрабіў – і няхай ідзе. Маўляў, паглядзім, куды ён пойдзе. Дахаты пабаіцца, знойдзем жа. Тады куды? У лес, да партызан? Няхай паспрабуе. Там жа яго не дужа каб па галоўцы пагладзілі за такое. Ля першай жа сасны і шпокнуць.

Знікнуць незаўважна Ігнату якраз і не хацелася. Не жадаў ён пакінуць гэтае страшнае месца неўпрыкмет, не мог. Зусім не дзеля гэтага стаіць цяпер, прытуліўшыся да вугла школы.

Вядома, ён можа знікнуць цішком, з будынка ж вунь выслізнуў, у рэшце рэшт зможа дайсці да партызан (а ў гэтым Ігнат не сумняваўся, бо ведаў, што яны недзе тут, непадалёк, ды і сам учора чуў, як паліцаі гаварылі пра дыверсію на чыгунцы пад Рудняй, што ў кіламетрах пятнаццаці адсюль). Але ж мястэчкоўцы... Мястэчкоўцы так і не даведаюцца нічога аб ім. Ігнат, прыйшоўшы сюды з немцамі-паліцаямі, тут зрабіў сваё цяжкае злачынства і няўжо пакутуе зараз толькі таму, каб уцячы незаўважаным? Гэта значыць застацца ў вачах коршунаўцаў назаўсёды здраднікам?

Ігнат разгублена застыў пасярод двара і не ведаў, як быць далей, што рабіць. Аж самому не верылася: няўжо гэта ён, шасцідзесяцігадовы мужчына, які выгадаваў пяцёра дзяцей, дажыў да ўнукаў, ён, хто за сваё вялікае жыццё прыняў не адно рашэнне, зараз такі бездапаможны, як малое дзіця. Няўжо нічога болей не застаецца, як зноў сунуцца ў тую ненавісную будыніну, дзе, нажлукціўшыся з вечара самагонкі, храпуць асалавелыя фашысты і іх памагатыя-паліцаі. А што заўтра, раніцай? Прывязуць новых "бандытаў", і зрабі ласку, Ігнат, выштурхні з-пад іх табурэцікі. Няўжо толькі гэта і застаецца?

"Не, – падумаў Ігнат, – цяпер у мяне адна дарога – туды, да павешаных... І выбар адзін: стаць трэцім сярод тых двух, што развіталіся з жыццём не без майго ўдзелу, іншага няма. Так, павешаным я ўжо не дапамагу, але ж, можа, хоць іх душы даруюць маёй, калі спаткаюцца там, за мяжой небыцця. Хаця ці даруюць? Але ж у чым мая віна? У тым, што паставіў апошнюю кропку на жыцці тых двух? Дык калі б не я, гэта зрабілі б іншыя. Канец бы ўсё роўна быў адзін. Хіба што тут жа знайшлі б і трэці табурэцік – для мяне, Ігната. І адляцелі б нашы тры душы разам. А так прыйдзецца даганяць..."

Ігнат азірнуўся і нетаропка – вочы ўжо крыху прывыклі да цемені – пасунуўся да воза, ля якога адзінока хрумстаў сенам конь. Правёў старэчымі пальцамі па драбінах, адвязаў лейцы. "Самае тое", – падумаў. Паспрабаваў зняць аброць з каня, але той адхіснуўся ўбок і наступіў на аглоблю – і яна загайдалася, задрыжэла. На нейкую хвіліну знерухомеў. Потым, бы праясненне якое, прыйшла згадка: нож! Так, так, недзе ў кішэні ватоўкі павінен быць нож. Ігнат жа якраз сядзеў у двары і плёў кошык, калі яго заграблі. І сапраўды, нож быў у кішэні.

Дастаўшы яго, асцярожна абрэзаў лейцы, зматаў, каб было ямчэй, і, камечачы ў руках, завярнуў за вугал школы. Зірнуў у той бок, дзе на перакладзіне школьных варот матляліся целы павешаных учора партызан, стаіўся, агледзеўся вакол. Апрача гэтых двух нябожчыкаў, нічога чалавечага побач не было.

"Значыць, не выставілі аховы, – падумаў Ігнат. – Ведаюць жа, што і так наўрад ці хто асмеліцца сунуцца". Што-што, а закон нямецкі ён знаў: калі хоць адзін павешаны прападзе – не мінуць бяды нікому. Ніводны мястэчковец не выйдзе жывым. Каменя на камені не пакінуць, усё мястэчка зруйнуюць.

Тое, што няма аховы, супакоіла. Іначай Ігнат не змог бы здзейсніць свой план, а прыдумаць нешта іншае быў ужо не здатны, бо ўсе думкі адно і вярцеліся вакол задуманага. Таму і хаваўся, каб, крый Божа, ніводным рухам не выдаць сябе, не ўзняць вэрхал. Нават тое, што яго застрэляць, Ігната не радавала, бо ён хацеў менавіта такой смерці, якую наканаваў лёс тым двум, побач з кім ён жадае стаць трэцім.

Моцна сціскаючы ў руках лейцы, Ігнат скіраваў да павешаных. Не ўзнімаючы ўгору вочы, быццам баючыся ўбачыць нейкі нямы дакор у васковых тварах тых, з-пад чыіх ног учора выбіваў табурэткі, перакінуў канец лейцаў цераз перакладзіну, замацаваў іх вузлом і, блытаючыся і спяшаючыся, пачаў рабіць пятлю. Аднак рукі былі непаслухмяныя, пальцы штось задзеравянелі, і Ігнату здавалася, што неўзабаве і развіднее, а ён так і не паспее нічога.

Раптам адчуў, што ў рэшце рэшт нешта атрымалася. Трымаючы адной рукой пятлю, нібы абруч той, Ігнат стаў на ўскрай табурэткі, перахрысціўся.

Перш чым пятля сціснула горла, перад вачыма мільгануў далёкі сямейны фотаздымак: у цэнтры – яны з нябожчыцай Марфай, а вакол – іх пяцёра дзяцей. На руках дачок – лялькі, а сыны ашчаперылі аўтаматы, і зусім, здаецца, не самаробныя, а самыя што ні ёсць сапраўдныя. І раптам падалося, што фотакартка прама на вачах пачала ажываць. Быццам сыны з падшыванцаў-падлеткаў пераўтварыліся ў мужных воінаў і вось ужо бягуць да вісельні, вунь і агеньчыкі ад аўтаматных чэргаў мільгаюць.

Ігнат не ведаў, што гэта, хапіўшыся яго, паляць ва ўсе бакі п'яныя паліцаі.

КАНЕЦ СВЕТУ!

## Штраф за акцыю… на сваім балконе

*Суд Першамайскага раёна Віцебска прызнаў* ***Таццяну*** *і* ***Канстанціна Севярынцаў*** *вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.*

Суддзя **Міхаіл Юрчанка** расцаніў маханне бел-чырвона-белым сцягам з лоджыі як несанкцыянаванае пікетаванне і прыняў рашэнне аштрафаваць Таццяну Севярынец на 25 базавых велічынь (675 рублёў), а яе мужу Канстанціну вынес папярэджанне, бо для яго гэта была першая за год адміністрацыйная справа.

Згодна з пратаколам, Таццяна Севярынец «*знаходзілася ў грамадскім месцы – на лоджыі ў сваёй кватэры – і на вачах у іншых грамадзян брала актыўны ўдзел у пікетаванні: выказвала грамадска-палітычныя інтарэсы з выкарыстаннем бел-чырвона-белага палотнішча, звяртала на сябе ўвагу грамадзян, дэманстравала жэсты рукамі*».

**Віктар ШПАК.**

СІТУАЦЫЯ

## Пад кантроль!

*Міністэрства спорту вырашыла абавязаць спартсменаў вывучыць словы дзяржаўнага гімна. Адпаведныя змены ўносяцца ў іх кантракты.*

Спартсменаў просяць падпісаць дадатковыя пагадненні да кантрактаў. Згодна з новаўвядзеннямі, яны абавязваюцца ведаць на памяць гімн Беларусі, могуць выкарыстоўваць толькі дзяржаўную сімволіку і не маюць права даваць каментарыі СМІ і рабіць любыя публікацыі без дазволу наймальніка, паведамляе *TUT.BY*.

Адпаведны загад падпісаў міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук**.

На працягу апошняга месяца шэраг спартсменаў выказаліся ў СМІ супраць гвалту, зладжанага сілавымі структурамі Беларусі. Акрамя таго, многія з іх удзельнічалі ў мірных акцыях пратэсту ці неяк інача праяўлялі салідарнасць. Напрыклад, футбольны клуб «Крумкачы» выходзіў на гульню ў футболках «Мы з народам», што Федэрацыя футбола палічыла палітычнай дэкларацыяй.

СТАЛА ВЯДОМА

## Пошліны пайшлі ўніз

Беларусь з 1 кастрычніка знізіла экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты, якія вывозяцца за межы мытнай тэрыторыі Еўразійскага эканамічнага саюза. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў ад 30 верасня 2020 года.

Стаўка экспартнай пошліны на сырую нафту складзе 45,4 долара за тону (раней – 47,5 долара).

Пошліна на прамагонны бензін устаноўлена на ўзроўні 24,9 долара за тону (раней – 26,1). На таварныя бензіны, лёгкія і сярэднія дыстыляты яна складзе 13,6 долара за тону (раней – 14,2), такая ж пошліна ўстаноўлена адносна дызельнага паліва, бензолу, талуолу, ксілолаў, змазачных і іншых масел.

Раней стаўкі вывазных мытных пошлін адносна сырой нафты і асобных катэгорый тавараў, выпрацаваных з нафты, змяняліся 1 верасня. Тады яны былі павышаны.

ЧУЛІ?

## Паляцелі!

З 30 верасня авіякампанія "Белавія" аднавіла выкананне рэйсаў па маршруце Мінск–Масква–Мінск.

"*У адпаведнасці з абмежаваннямі, устаноўленымі авіяцыйнымі ўладамі Расіі, палёты будуць выконвацца адзін раз на тыдзень (па серадах) у аэрапорт Дамадзедава (Масква)*", – адзначылі ў "Белавія".

Вылет з Мінска будзе ў 12.35, з Масквы – у 14.45.

Замежным пасажырам неабходна мець медыцынскую даведку з адмоўным вынікам ПЦР-тэста на каранавірус (COVID-19), выдадзеную не пазней як за 72 гадзіны да прыбыцця.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Александр ЛЕСУН:
# «Никто не несет ответственности за насилие…»

*Олимпийский чемпион из России высказался по поводу того, что происходит в Беларуси.*




Александр Лесун – уроженец Борисова, но в последнее время выступает за сборную России. Чемпион Олимпийских игр в Рио-2016.

– Я вижу, какие новости дают о Беларуси российские и белорусские СМИ, общаюсь с друзьями и близкими, которые сейчас там находятся, – рассказал **Александр ЛЕСУН** российским СМИ. – И это несопоставимо. Не понимаю, почему Russia Today там работает и несет то, что несет? Ситуация освещается однобоко.

Я никак не связан с политикой, но абсолютно против того, когда человек выходит в магазин, например, и его избивают. Нет, если в тебя кидают камень, я могу понять, почему милиция или ОМОН реагируют, но зачем применять насилие к мирным гражданам? За это же еще и никто не несет ответственности!

Нам говорят, что в Беларуси все хорошо, я могу привести великолепный пример на эту тему. Мои родители всю жизнь работали на неплохих работах, но до 16 лет не могли вывезти меня на море. Я поехал туда, когда сам начал зарабатывать. Как вы считаете, хорошо ли это?

**– Вам не писали белорусы в «Инстаграме» с требованием отреагировать на происходящее? Просто такая тенденция наблюдалась.**

– Мне тоже предлагали что-то рассказать. Я даже давал какие-то комментарии на эту тему. Правда, здесь много подводных камней. Сейчас все против Лукашенко, я тоже не особо за него. Потом возникает вопрос: «За кого?» Особо никого и нет. Да, государственную систему давно пора менять – факт.

Вся фишка в том, что эти протесты – не против России, не за Европу. Белорусы, с которыми я общался, прекрасно понимают, что никому не нужны в Европе. Диалог будет только с Россией.

**– Чем всё закончится?**

– Сложно сказать. Когда слушаю президента Беларуси, понимаю, что сегодня он говорит одно, а завтра – уже другое. Я также не могу верить всем СМИ. Информация идет разная. Я лишь знаю, что не хочу насилия против мирных граждан.

**Виктор ШПАК.**

МНЕНИЕ

# Никита МЕЩЕРЯКОВ:
# «Жду реакции от игроков сборной и всех остальных…»

*Известный белорусский баскетболист рассказал «Народной Воле» о том, почему в стране отправляют за решетку выдающихся спортсменов.*



**Никита МЕЩЕРЯКОВ** сейчас находится в России, тренируется вместе со своим клубом «Новосибирск».

О политике спортсмен начал высказываться еще до выборов, когда после ареста претендентов на президентскую должность Виктора Бабарико и Сергея Тихановского написал в Instagram: «*Игра без правил. Кандидатов сажают за решетку, людям затыкают рты. Это – не Беларусь будущего. Александр Григорьевич, вы не мой президент*».

Позже Никита Мещеряков в числе других спортсменов подписал письмо против фальсификации выборов и насилия в стране, вошел в Белорусский фонд спортивной солидарности, ходил на уличные акции, когда был в Минске.

Никита говорит, что от новости, что Елене Левченко дали 15 суток административного ареста, он «*был просто в шоке, хотя этого все равно можно было ожидать*».

– В стране сейчас правовой дефолт, – говорит **Никита Мещеряков**. – Вроде Беларусь находится в центре Европы, какая-никакая должна быть цивилизация, но сегодня мы видим, что в стране законы не работают совсем.

Безусловно, некоторые думали, что известных спортсменов это не коснется, даже если они высказывают публично свою позицию, но, как оказалось, это были рассуждения наивных. Гребут всех подряд, невзирая на должности и ранги!

Правоохранительные органы пытаются оказать давление на все слои населения, а всех, кто высказывает свое мнение и борется за свои права, считают чуть ли не личными врагами. Поэтому репрессии могут затронуть абсолютно каждого.

**– Елена Левченко собиралась на операцию, которую ей должны были сделать в ближайшее время. Специально арестовали перед отлетом, чтобы лишний раз напакостить?**

– Не исключено, хотя на сто процентов утверждать это не могу. Возможно, решили устроить публичную акцию устрашения для других спортсменов, которые наберутся наглости заговорить о своих правах.

Но люди сегодня солидарны друг с другом, и отступать никто не намерен. Тем более не отступится от своих взглядов Лена Левченко. Уж я-то знаю ее характер.

**– А вы когда улетели в Новосибирск?**

– Около недели назад, и, как видим, преград не было, хотя тоже регулярно посещал массовые акции. Да я и сейчас всех поддерживаю даже на расстоянии.

**– Когда были в Минске, с вами спортивные чиновники из Минспорта или Белорусской федерации баскетбола профилактические беседы проводили?**

– А что со мной проводить, если все знают, что это бесполезно? Я выступаю за правду, а не за лицемерие, и никто меня не заставит врать во имя того, чтобы кто-то остался в своем кресле.

Хотя было несколько звонков на телефон с незнакомых номеров, но я не отвечал. Поэтому прямых угроз или каких-то наставлений не было, а вот представители Республиканского центра олимпийской подготовки, где я числюсь на полставки, потребовали присылать им расписание моих тренировок, хотя раньше никогда этого не было.

Сейчас требуют постоянно отчитываться, где я тренируюсь, как это делаю. Особенно их это интересовало в то время, когда был в Минске. Такое впечатление, что ищут повод для моего увольнения.

**– Готовы к этому?**

– Чему быть, того не миновать. Приму как факт, потому что понимаю, что от меня ничего не зависит в ситуации, когда от понятия «законность» осталось только слово.

**– В России у вас интересуются, что на самом деле происходит в Беларуси?**

– Знаете, многие россияне и на самом деле относятся с пониманием, но не скрою, что есть и такие, которые верят всему, что им вдолбили в мозги пропагандисты из российских СМИ.

Информация о Беларуси, которую дают российские государственные телеканалы, как правило, абсолютно искаженная, реальность просто перевернута с ног на голову. Но многие этому, к сожалению, верят.

Хотя лично я, честно говоря, телевидение стараюсь вообще смотреть только фрагментами, потому что информацию беру исключительно из источников, которым доверяю.

**– На ваш взгляд, Белорусская федерация баскетбола должна в ситуации с арестом Елены Левченко выступить в защиту спортсменки?**

– Однозначно, хотя не думаю, что мы этого дождемся. Больше надеюсь на то, что баскетбольная общественность как-то отреагирует на эту ситуацию. Лена Левченко – это все-таки топовая белорусская баскетболистка, поигравшая даже в Америке.

Я знаю, что наше баскетбольное сообщество солидарно, поэтому жду реакции и от игроков сборной, и от всех остальных.

**Алесь СИВЫЙ.**

СІТУАЦЫЯ

# Служылі два таварышы…

Іван Ціхан і Вадзім Дзевятоўскі – вядомыя беларускія кідальнікі молата. Яны ішлі разам і ў спорце, і ў жыцці. Заваёўвалі медалі, праходзілі праз выпрабаванні. Пасля Алімпіяды-2008 Ціхан і Дзевятоўскі абвінавачваліся ў выкарыстанні допінгу, але падалі ў суд. Працэс доўжыўся амаль два гады, у выніку беларускіх спартсменаў апраўдалі і вярнулі ім медалі.

Фактычна пасля гэтага **Вадзім Дзевятоўскі** спыніў сваю спартыўную кар’еру і падаўся ў палітыку – некалькі разоў быў абраны дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, а таксама кіраўніком Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

44-гадовы **Іван Ціхан** да гэтага часу афіцыйна не абвяшчаў пра завяршэнне прафесійнай кар’еры спартсмена і разлічваў нават на ўдзел у чарговай Алімпіядзе.

Абодва ніколі не хавалі, што яны падтрымліваюць палітыку ўлад, а Вадзім Дзевятоўскі пастаянна браў удзел у розных праўладных мерапрыемствах.

Таму для многіх як снег на галаву было паведамленне пасля выбараў на яго старонцы ў “Фэйсбуку”: “*Лукашэнка – не мой прэзідэнт!!!*” Многія падумалі, што старонку экс-дэпутата Палаты прадстаўнікоў нехта ўзламаў, каб размясціць гэты допіс, але сам Дзевятоўскі пацвердзіў, што пісаў сам і ад сваіх слоў не адмаўляецца. Пры гэтым было відаць, што эмоцыі ў чалавека б’юць праз край…

“*Я ўжо сфармуляваў сваю пазіцыю, я не змагу цяпер нешта растлумачыць*, – распавядаў Дзевятоўскі *pressball.by*. – *Я ж паверыў яму... Дзіўна... Я яму, натуральна, верыў. Ён жа таксама чалавек. Скаціна я на самай справе... Ён жа верыў мне, ён заўсёды казаў: не аддавай. Жахліва... Я ж яму не здраджваў да апошняга...*

*У гэтым і быў цяжкі выбар. Я бачыў, як ён шчыра перажываў за краіну. Але я сапраўды не мог беспарадкі падтрымліваць. Я ніколі не быў за гвалт, ніколі! Для мяне гэта цяжкі выбар. Прабач мне, Божа!*”

Па дзяржаўным тэлебачанні допіс Дзевятоўскага ў сацыяльных сетках назвалі фейкам і дадалі, што ў былога спартсмена адбыўся нервовы зрыў.

Але сам Вадзім Дзевятоўскі ўдакладніў, што пра Лукашэнку напісаў, таму што яго папрасіў гэта зрабіць яго брат Алег – у мінулым вядомы спартсмен, член зборнай Беларусі па водных лыжах. Наколькі вядома, на фоне паслявыбарных падзей, збіцця людзей у сям’і Дзевятоўскіх адбылася самая сапраўдная драма.

Пасля гэтага Вадзім Дзевятоўскі, што называецца, знік з радараў, на тэлефанаванні не адказваў, але было відавочна, што яго кар’ера на пасадзе кіраўніка федэрацыі скончана.

А вось Івана Ціхана, які ад сваіх поглядаў не адступіўся, Лукашэнка пахваліў: “*Дзякуй табе, дарагі! У адрозненне ад іншых ты аказаўся патрыётам. Сустрэнемся – пагаворым. Дзякуй, Ваня, дзякуй!*”

І на пазачарговай канферэнцыі Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі, якая адбылася днямі, Іван Ціхан прагназуема змяніў Вадзіма Дзевятоўскага, які ўзначальваў федэрацыю з 2014 года.

“*Ніхто мяне не папракне, што я штосекундна не жыў праблемамі лёгкай атлетыкі*, – сказаў на канферэнцыі Дзевятоўскі. – *Я ведаю душы нашых спартсменаў, жыў гэтымі праблемамі штохвілінна, думаючы пра тое, як зрабіць лепш, каб мы гучалі яшчэ раней і лепш.*

*Мне нярэдка казалі: беражыце сябе. Але арганізм даў збой, і мне неабходна аднаўленне. Гэта вымушаная мера. Але мне не хочацца, каб зададзены тэмп спыняўся.*

*Я хацеў бы прапанаваць кандыдатуру чалавека, які мне як брат, – Івана Ціхана. Вы нават не ўяўляеце, праз якія цяжкасці прайшоў гэты чалавек.*

*Як толькі спраўлюся з праблемамі (у мяне ёсць і сямейныя абставіны), паспрабую вярнуцца і падхапіць тое, што мы маем*”.



А вось Іван Ціхан пасля прызначэння заявіў, што хацеў бы, каб у сям’і лёгкаатлетаў была згода.

“*Я з Гродна, у рэгіёне шмат каталікоў, але хапае і мусульман*, – цытуе Івана Ціхана *pressball.by*. – *У мяне ёсць сябры-мусульмане. І нікому не прыходзіць у галаву лаяцца і біцца з-за таго, што адны вераць у Алаха, а другія – у Ісуса. Перакананы, што ў любой жыццёвай сітуацыі трэба быць больш памяркоўнымі, паважліва ставіцца адзін да аднаго. Нават калі ў кожнага ёсць свая думка па якіх бы там ні было пытаннях. Як ні круці, але ўсім нам прыйдзецца жыць у гэтай краіне.*

*Ці патрэбна дзяліць спартсменаў на “правільных” і “няправільных”? Няма такіх паняццяў. Усе мы – людзі. У бацькоў не бывае любімых і нелюбімых дзяцей. Кожны лёгкаатлет з’яўляецца сябрам Беларускай федэрацыі і вялікай лёгкаатлетычнай сям’і.*

*Таму я буду адстойваць усіх. Як жа інакш? Не трэба дзяліць па палітычных ці нейкіх іншых поглядах. Лічу, з кожным трэба размаўляць, абмяркоўваць. У нашай лёгкаатлетычнай сям’і, як і ў любой іншай, усе пытанні трэба вырашаць унутры, спакойна. Так звычайна атрымліваецца хутчэй і з мінімальнымі стратамі*”.

**Алесь СІВЫ.**

### *ТЫМ ЧАСАМ*

Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі асудзіла абранне кіраўніком Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі Івана Ціхана.

Прэс-аташэ федэрацыі адзначыў, што чалавек з допінгавым мінулым не можа займаць кіруючыя пасады ў лёгкай атлетыцы.

“*Ніводны чалавек, які адбыў допінгавую дыскваліфікацыю, не павінен займаць кіруючую пасаду ў структурах сусветнай лёгкай атлетыкі*”, – сказаў прадстаўнік Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі.

Нагадаем, што Івана Ціхана ў свой час пазбавілі сярэбранага медаля Алімпіяды-2004, пасля таго як у 2012 годзе яго паўторны тэст паказаў сляды анабалічных стэроідаў. У Ціхана забралі таксама залатыя медалі чэмпіянату свету 2005 года і чэмпіянату Еўропы 2006 года.

ШАХМАТЫ

## Задача ад чытача

Сваю двухходоўку прапануе **Міхаіл Кошаль** з Мінска ***(гл. дыяграму).***




**Белыя**: Кра6, Фh1, Лb7, Лd2, Cd6, Кс8, Kf6 (7).

**Чорныя:** Крс6, Лg8, Са2, Cd8, пп. с4, с7, d5, е4 (8).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## З народам!

Сярод соцень спартсменаў, якія падпісалі адкрыты ліст з патрабаваннем новых, сумленных, выбараў і спынення гвалту, былі і шахматысты: міжнародныя гросмайстры **Сяргей Азараў**, **Андрэй Жыгалка**, **Яўген Падольчанка**, **Ланіта Сцяцко**, старшыня Беларускай федэрацыі шахмат, віцэ-прэзідэнт ФІДЭ, міжнародны майстар **Анастасія Сарокіна**, міжнародны майстар **Віталь Мерыбанаў**, майстар ФІДЭ **Антон Сягоднік**, майстар спорту **Дзмітрый Буланаў**, кандыдаты ў майстры спорту **Ілля Сапон**, **Валянцін Ежаль**, **Іван Сапега** і **Ігар Повад** (два апошнія – таксама журналісты і блогеры). Дарэчы, былі ў спісе і шашысты: гросмайстар **Аляксандр Прэсман**, майстар **Уладзіслаў Сплендэр**, 6-разовы чэмпіён свету і Еўропы сярод моладзі **Андрэй Толчыкаў**…

## Без узнагарод

Як мы раней паведамлялі, зборная Беларусі брала ўдзел у анлайн-алімпіядзе ФІДЭ – у групе А другога дывізіёна. На жаль, вынік атрымаўся не вельмі ўдалы.

У першым туры нашы землякі саступілі Балгарыі (2,5:3,5), у другім перамаглі Бангладэш (4:2), у трэцім нечакана прайгралі Туркменістану (2,5:3,5). Няўдала склаўся і другі гульнявы дзень – паражэнні ад Філіпін (1,5:4,5), Інданезіі (2,5:3,5) і Германіі (2,5:3,5). У заключны дзень беларуская каманда атрымала тры перамогі: над Кіргізіяй (5,5:0,5), Бельгіяй (4,5:1,5) і Аўстраліяй (3,5:2,5), – але ў выніку заняла толькі шостае месца з дзесяці магчымых, набраўшы 8 матчавых балаў. Тры прызавыя месцы ў гэтай групе занялі Балгарыя (18 балаў), Германія (15) і Інданезія (12).

На мужчынскіх дошках **Уладзіслаў Кавалёў** набраў 3,5 бала з 6, **Аляксей Аляксандраў** – 2 з 5, запасныя **Кірыл Ступак** і **Вячаслаў Зарубіцкі** – адпаведна 2 з 3 і 0,5 з 4.

На жаночых дошках у **Вольгі Бадэлька** – 2,5 бала з 7, у **Настассі Зязюлькінай** – 4,5 з 6, у запасных **Ланіты Сцяцко** і **Яны Ільючык** – адпаведна 1,5 з 2 і 2,5 з 3.

На юніёрскіх дошках **Міхаіл Нікіценка** набраў 4 бала з 5, **Аляксандра Тарасенка** – 2,5 з 6, запасныя **Дзяніс Лазавік** і **Ксенія Зелянцова** – адпаведна 1,5 з 4 і 2 з 3.

Прапануем дзве пераможныя партыі беларускіх шахматыстаў.

***Луіс Энгель – Міхаіл Нікіценка***

1.е4 е5 2.Kf3 Кс6 3.Cb5 а6 4.Са4 Kf6 5.d3 b5 6.Cb3 Се7 7.а4 b4 8.Kbd2 d6 9.Кс4 h6 10.h3 0-0 11.0-0 Се6 12.Ле1 Kh7 13.d4 ed 14.К:d4 К:d4 15.Ф:d4 Kf6 16.Cf4 Kd7 17.Лad1 Кс5 18.Фd2 а5 19.Ле3 Cg5 20.С:g5 Ф:g5 21.Фd4 С:с4 22.Ф:с4 Лае8 23.Лd5 Ле5 24.h4 Фе7 25.g3 с6 26.Л:е5 Ф:е5 27.с3 bc 28.bc К:b3 29.Ф:b3 Фс5 30.Лf3 g6 31.Фd1 h5 32.Фd2 Ле8 33.Лf6 Л:е4 34.Л:d6 Л:а4 35.Лd7 Фf5 36.Ла7 Ла1+ 37.Крh2 Фf3 38.Фd8+ Kph7, 0:1.

***Антон Смірноў – Кірыл Ступак***

1.е4 е6 2.d4 d5 3.Кс3 Кс6 4.е5 f6 5.Cb5 Cd7 6.Kf3 Фе7 7.Ке2 К:е5 8.С:d7+ К:d7 9.0-0 Фf7 10.Kf4 0-0-0 11.Ле1 Ле8 12.Фе2 е5 13.de К:е5 14.К:е5 fe 15.с4 Cb4 16.К:d5 С:е1 17.Ф:е1 Kf6 18.Ке3 Лhf8 19.b3 Лd8 20.Cb2 Лfe8 21.Фе2 Фh5 22.Ф:h5 К:h5 23.Сс3 Kf6 24.Kpf1 Ке4 25.Се1 с6 26.Кре2 g6 27.b4 Лd4 28.а4 Kd6 29.Лс1 Kf5 30.b5 К:е3 31.fe Лd7 32.bc bc 33.Сс3 Лf7 34.е4 Лef8 35.Кре3 Ле8 36.Лd1 Лd7 37.Лf1 Лed8 38.Лс1 Лd1 39.Лс2 Лb1 40.С:е5 Ле1+ 41.Kpf4 Лf8+ 42.Kpg5 Л:е4 43.Cg3 Лf5+ 44.Kph6 Ле7, 0:1.

Дарэчы, скончылася анлайн-алімпіяда канфліктам. У фінальным матчы Расія–Індыя тром індыйскім шахматыстам з-за праблем з сувяззю былі прысуджаны паражэнні. Індыя аспрэчыла вынік матча, пасля чаго прэзідэнт ФІДЭ Аркадзь Дварковіч узнагародзіў залатымі медалямі абедзве зборныя. Але аналагічны выпадак з сувяззю адбыўся раней ў чвэрцьфінале, з-за чаго Арменія прайграла Індыі. Таму Арменія жорстка раскрытыкавала кіраўніцтва ФІДЭ.

## Праверце адказы

Задача М.Бельчыкава, змешчаная ў “Народнай Волі” 8 верасня, рашаецца: 1.Ла6! zz 1...а4 2.Л:а4 g4 3.Ла5х, 1...Крg4 2.Л:а5 Крg3 3.Л:g5х. Абодва варыянты заканчваюцца гэтак званым “ідэальным матам”.

Першымі правільна рашылі **Васіль Жуковіч**, **Сяргей Галкін**, **Славамір Буката**, **Ігар Ананіч**, **Віктар Жук**, **Сяргей Цяльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Подписано в печать 01.10.2020 в 17.00. Объем 4 печ. листа. Тираж 22040 экз. Заказ №2678.